


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

10 жніўня 2001 года

№ 32 (329)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Новы аўтобусны маршрут

МАЛАДЗЕЧНА. З 4 жніўня аўтапарк увёў міжгародні аўтобусны маршрут Маладзечна – Докшыцы, які праходзіць праз Вілейку і Мядзельшчыну. Новы маршрут працуе па выхадных днях. Адпраўленне па суботах – у 6.45, па нядзелях – 11.30.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Гарачы ліпень

МЯДЗЕЛ. Сярэдняя тэмпература паветра сёлетнім ліпенем на Нарачы была амаль на 5 градусаў вышэй, як летась.

А вось ападкаў выпала ўдвая менш за нормы. Максімальнай велічыні за апошнія гады дасягнула тэмпература вады ў возеры Нарач. 17–18 ліпеня яна складала 28,8° С. Штосьці падобнае было ў 1994 годзе. Тады вада ў возеры прагрэлася да 28 градусаў.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Міністр прыехаў у рэгіён

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду з рабочай паездкай мінскую частку нашага рэгіёна наведаў міністр унутраных спраў генерал-маёр **Уладзімір Навумаў**.

У Валожыне, Маладзечне, Вілейцы і Мядзеле міністр азнаёміўся з асабістым складам мясцовых органаў унутраных спраў, крымінальным становішчам у гэтых раёнах, вывучаў стан апаратыўна-службовай дзейнасці. Акрамя гэтага, У. Навумаў вырашаў службовыя пытанні.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Добраўпарадкаванне за свае сродкі

СМАРГОНЬ. Рашэннем райвыканкома зацверджаны гадавыя праграмы па капітальным рамонце жылога фонду і добраўпарадкаванні горада. На ўсё гэта з райбюджэту адпушчана 500 мільёнаў рублёў. Ад пачатку года добраўпарадкаваныя 4 прыдамавыя тэрыторыі (па адной у кожным ЖЭСе), заменена агароджа на платнай аўтастаянцы, укладваюцца пліткай пешаходныя дарожкі ў цэнтральным гарадскім парку, пачатая рэканструкцыя парку Перамогі.

Паступова прыгажэюць і некаторыя магазіны, банкі, офісы прыватных прадпрыемстваў. Але за іх уласныя сродкі. Сёлета ўзнавілася будаўніцтва Спаса-Прэабражэнскай царквы, першы камень якой заклалі ў 1990 годзе.

Павел МАКЛЮК.


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Так цяпер выглядае Спаса-Прэабражэнская царква ў Смаргоні.



## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 11 жніўня**

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 12 – 13°С (уначы)<br>21 – 23°С (удзень) | 12°С (уначы)<br>20°С (удзень) |

**Нядзеля, 12 жніўня**

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 12 – 16°С (уначы)<br>19 – 20°С (удзень) | 13°С (уначы)<br>19°С (удзень) |

# Палігон для бактэрый

**МАЛАДЗЕЧНА. Ліпень-жнівень дораць нам не толькі маладую бульбу, моркву, памідоры, але і спакушаюць заморскімі персікамі, абрыкосамі ды кавунамі.**

Паўднёвая паласатая ягада адначасова і салодкі пачастунак, і зялёны лекар. Аднак чырвоная мякаць падчас утойвае небяспеку атруты. Такія хваробы здараюцца нярэдка, асабліва летам. Спёка, антысанітарныя ўмовы гандлю ствараюць спрыяльную глебу для промыслу ўсюдысiсных мікробаў.

Улетку колькасць пацыентаў інфекцыйнай бальніцы з атрутамі страўніка і вострымі кішэчнымі інфекцыямі павялічваецца. Але далёка не ўсе, калі ўзнікаюць сімптомы, звяртаюцца па дапамогу да "белых халатаў".

Урач-гігіеніст цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Вольга Муравейка** не ўпэўненая, што былі выпадкі атручвання кавунамі:

– Нельга адназначна сказаць, што прычынай дрэннага адчування хворых з'яўляецца менавіта з'едзены кавун, бо не адзінымі імі жыве чалавек.

Аднак урач не выключае таго, што ёсць пагроза атручвання ці вострай інфекцыі пры ўжыванні кавуна. Дастаткова выйсці, прыкладам, да гандлёвых палатак ля магазіна "Веламотатавары", каб пабачыць палігон для школьных бактэрый. Парэзаныя часткамі кавуны неабмежаваны час грэюцца на сонейку ў чаканні чарговага пакупніка.

Тым часам на чырвонай мякаці сярод пылу адпачываюць мухі. Не выключана, што кавуноў кармілі з дапамогай уколаў, каб яны хутчэй падрасталі.

– Унутр не зазірнеш, – жартуе ўрач.

Вольга Муравейка раіць купляць цэлыя кавуны. Каб праверыць "якасць", трэба папрасіць прадаўца адрэзаць кавалачак. Перш, чым спажываць кавун дома, трэба яго добра памыць.

Калі ж увага вам здрадзіла і мікробы здолелі вас зваліць, не ўчыняйце з імі пандынкаў, а пры першых сігналах звяртайцеся да ўрача.

Вольга КАСЯКОВА.


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Маладзечна, чацвер, калгасны рынак. Для прадаўца ягада падаецца не такой ужо і салодкай.

Экспрэс-апытанне віляйчанаў

## Пра што вы марыце?



**Дзяніс Малееў, начальнік каравула:**
– Далей ісці па прафесійнай лесвіцы. А таксама знайсці жонку, пабудаваць дом, выгадаваць дзяцей.



**Жанна Петух, намеснік загадчыка аддзела культуры:**
– Хачу наведаць Англію, дзе жылі мае родныя. Заўсёды мару і жадаю, каб ніколі не было вайны і ўсе дзеці былі здаровыя.



**Юрый Дзядкоў, пажарны:**
– Мару, каб маё дзіця нарадзілася здаровым. І няхай жыве лепш за нашае пакаленне.



**Ганна Расіцава, аператар:**
– Мару пра адпачынак. На жаль, ён будзе толькі ў наступным годзе.

Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Мікалай ХАДАСЕВІЧ.

■ АПЫТАННЕ «РГ»

## Ці верыце, што гарачую ваду ўключаць 12 жніўня?

**МАЛАДЗЕЧНА. 6 жніўня грамадзяне ў каторы раз засталіся без гарачай вады ў сувязі з чарговай апрасоўкай.**

Электрасеткі паабяцалі, што ваду ўключаць 12 жніўня. Ці вераць у гэта маладзечанцы? На пытанне ў панядзелак адказалі 50 чалавек.

36 рэспандэнтаў упэўненыя, што дзіва не адбудзецца. 14 апытаных спадзяюцца на лепшае.

Вольга КАСЯКОВА.



Юныя фотамадэлі заўсёды выйграюць. Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

# Увайдзіце ў цікавы свет

**МАЛАДЗЕЧНА. Тры месяцы на курсах манекеншчыц і фотамадэляў маладзечанскія дзяўчаты вывучалі дэкаратыўную касметалогію, цырульніцкае мастацтва, дыеталогію.**

За невялікі тэрмін правільна і прыгожа хадзіць, густоўна апранацца, граматна паводзіць сябе з людзьмі іх навучылі **Ірына Манько** і **Таццяна Чаеўская**. Зусім розныя "вучаніцы" утварылі адзіны калектыў, нейкім чынам, новую дружную сям'ю. Фотапробы **Яўгена Стэльмаха** дапамаглі кожнай свой уласны вобраз.

А затым у зале Дома культуры чыгуначнікаў адбыўся ўрачысты выпускны вечар. На ім дэманстраваліся калекцыі адзення для моладзі і дзяцей. Пад сучасную музыку будучыя зоркі подыума дэманстравалі маладзёжныя штаны, джынсы (прадаставіла дырэктар магазіна "Ботфор" **Людміла Акуліцкая**), купальныя касцюмы (прадаставіла **Алена Рудкоўская**). Разам з паказам калекцыі адбылася і жартоўная дэманстрацыя вайсковых галаўных убораў. Дыпломы, па якіх дзяўчаты змогуць працаваць ці вучыцца далей, ім уручылі на дэманстрацыі вясельных сукенак. Прыгожыя прычоскі дзяўчатам рабіла цырульня "Валянціна".

Удзельніцы лічаць, што гэтыя курсы могуць многаму навучыць дзяўчат. Не толькі як стаць прыгожай знешне, а як стаць прыгажэй і дабрэй душой. Яны запрашаюць усіх адкрыць для сябе гэты цікавы свет.

**Наталля КАНДРАЦЕНКА.**

■ ЛЕТА

## Немцы ў «Зубраняці»

**МЯДЗЕЛ. Амаль два тыдні адпачывалі ў летніку «Зубраня» 35 нямецкіх дзяцей і падлеткаў – ад 8 да 17 год.**

Прыязджаюць госці з Нямеччыны сюды ўжо шосты год. Асаблівую цікавасць у немцаў выклікае беларуская вёска: калодзеж, печ у хаце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Паўстагоддзя бібліятэкі

**МЯДЗЕЛ. Сёння спаўняецца 50 год Мядзельскай дзіцячай бібліятэцы. Вядома, за гэты час давялося ёй не раз пераязджаць, а адразу яна месцілася ў прыватным доме ў пакоі 4 на 4 метры.**

За паўстагоддзя існавання бібліятэку неаднаразова адзначалі, яна выйгравала розныя конкурсы. Прыкладам, летась яе ўзнагародзілі спецыяльным дыпломам і грашовай прэміяй па выніках абласнога конкурсу ў намінацыі «Бібліятэка года».

З тых супрацоўніц, што працуюць тут цяпер, найбольшы стаж мае Клара Фірага – 30 год. Апошнія 15 год бібліятэкай кіруе Роза Роўда.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, жнівень**

6–12 **"Валентайн"**, ЗША, трылер (на відэасістэме) 17-30, 22-10
**"Зайздрасць багоў"**, Расія, меладрама, 2 серыі 15-00, 19-40
13-19 **«Сёстры»** (прэм'ера), Расія, 15-00, 17-00, 19-00, 21-00

**Для дзяцей**

10 – **"Драконы і падзямеллі"**, ЗША, відэасістэма
11 – **"Воўка ў трыдзевятым царстве"**, Расія, мультпраграма
12 – **"Казка пра цара Салтана"**, Расія, мультпраграма
13 – **"Наследніца Нікі"**, Украіна
14 – **"Я і мой пёс Скіп"**, ЗША, відэасістэма
15 – **"Капітан "Пілігрыма"**, Украіна
16 – **"Вундэркінд"**, Польшча-Канада

Пачатак аб 11–й гадзіне, у выхадныя дні (субота, нядзеля) – а 13–й гадзіне.

■ ІМЯНІНЫ

**10 жніўня**
**Праваслаўныя**: Ніканора, Прохара, Юльяна, Яўстафія.
**Каталіцкія**: Багдана, Барыса, Ваўжынца.

**11 жніўня**
**Праваслаўныя**: Серафімы, Астапа, Канстанціна, Кузьмы.
**Каталіцкія**: Зузанны, Філамены.

**12 жніўня**
**Праваслаўныя**: Андроніка, Апалона, Валянціна, Германа, Івана, Лукі, Максіма.
**Каталіцкія**: Клары, Інакенція, Леха, Юльяна.

**13 жніўня**
**Праваслаўныя**: Еўдакіма.
**Каталіцкія**: Гелены, Дзіяны, Гіпаліта.

**14 жніўня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Антаніна, Кірыка, Лявонція.
**Каталіцкія**: Максіміліяна.

**15 жніўня**
**Праваслаўныя**: Васіля, Нікадзіма, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Марыі.

**16 жніўня**
**Праваслаўныя**: Антона, Кузьмы.
**Каталіцкія**: Яхіма, Сцяпана.

■ ПРАПАНОВА

## Ёсць з каго ўзяць прыклад!

**МЯДЗЕЛ. Нядаўна даведаўся, што існуе "Маленькая Беларусь". Яна выкладзеная вялікімі валунамі ў парку Уručча і паменшаная ў 2500 разоў. Там "цякуць" рэкі, "плешчацца" Мінскае мора, возера Нарач. А чаму б і ў нас, на Мядзельшчыне, не зрабіць ля школы ці клуба "Маленькі Нарачанскі край"?**

Узгоркі, рэкі, азёры, лясы Мядзельшчыны сталі б добрым наглядным дапаможнікам для краязнаўцаў і турыстаў. Нешта падобнае (толькі свайго мікрараёна) можна было б мець ля кожнай школы.

Мядзельскім настаўнікам ёсць з каго ўзяць прыклад. У 1935 годзе мастак-фатограф Ян Булгак выдаў кнігу "Возера Нарач". Ёе піша, што ў школьным летніку ў Купе ў той час ужо была пластычная карта Нарачы і суседніх азёраў Мястра, Баторына, Мядзел, Блакітнае. Былі тут карты геалагічныя і прыродазнаўчыя.

Меў гутарку на гэтую тэму з многімі настаўнікамі геаграфіі, прыродазнаўства. Пагаджаюцца з прапановай і збіраюцца ў новым навучальным годзе прыступіць да справы разам са сваімі вучнямі.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ СУВЯЗІ

## Вядомасць Будслава расце

МЯДЗЕЛ. Амаль штодня прыязджаюць у Будслаўскі касцёл цікаўныя. Ды не толькі з розных куткоў Беларусі. За апошні тыдзень былі і наведвальнікі з Аўстрыі, Італіі. Атрымліваецца, добра ведаюць пра Будслаўскую святыню і там.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДНІ

11 жніўня – **145 год з дня нараджэння У. Дабравольскага** (1856–1920), беларускага і рускага этнографа, фалькларыста, краязнаўцы, лексікографа.
12 жніўня – **Дзень будаўніка**.
У жніўні 1956 г. **уведзеная ў дзеянне 1-ая чарга Мінскага паліграфічнага камбіната**.

■ СЛУЖБА 01 ПАВЕДАМЛЯЕ

## Камбайны знішчаюць ураджай

**Камбайны "Дон-1500" асабліва небяспечныя ў пажарных адносінах. На сёння гэта даволі дарагая тэхніка, а рызыка ўзнікненя пажару на ёй значна вышэйшая, чым на іншых збожжаўборачных машынах.**

Кожную ўборачную на "Донах" здараюцца пажары з-за таго, што трэскаюцца масляныя шлангі высокага ціску і масла трапляе на гарачы калектар. Незамацаваныя электраправады таксама бываюць прычынай узгарання.

Найбольш надзейныя і эфектыўныя пры пажары вуглекіслотныя вогнетушыцелі.

Падліць масла у агонь пры пажары на "Доне" можа гумавы патрубак для зліву картэрнага масла, устаноўлены на днішчы рухавіка. У агні ён хутка перагарае і масла ў рухавіку выцякае вонкі. Камбайн не выратаваць. Яркі таму прыклад – пажар на "Доне" у калгасе "Усход" у 1996 годзе. Рэкамендуем замену гумавых патрубкаў на металічныя.

Недапушчальна замест калібраваных засцерагальнікаў у сістэме электрасілкавання машын прымяняць так званыя "жучкі".

Важна мець на полі аўтатэхніку, прыстасаваную для пажаратушэння. Нярэдкія пажары, што ўзнікаюць у адсутнасць цыстэрнаў (калі яны набіраюць ваду або на рамонце). Лепш спыніць камбайны на паўгадзіны, чым каяцца за сваю легкадумнасць.

Не заўсёды механізатары ўдзяляюць дастаткова ўвагі блоку акумулятарных батарэй. Пад накрыўкай блока павінная быць ідэальная чысціня (неабходна ўстанаўліваць гумку для ўшчыльнення).

У час аператыўных праверак сельгастэхнікі здзіўленне выклікаюць вогнетушыцелі, што намёртва замацаваныя дротам да кранштэйнаў. Шанцы патушыць пажар самастойна знікнуць за той час, пакуль механізатар будзе імкнуцца разблытаць такое мацаванне. Вогнетушыцель, усё ж, прызначаны для барацьбы з агнём на пачатковай стадыі.

Такім чынам, "непамыты", з падцёкамі масла камбайн – першы прэтэндэнт на спісанне ў выніку пажару.

**С. МЯКІНКА,**
**старшы інжынер ІСПН.**

■ МЕРКАВАННЕ

## Гуляй – не хачу

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе багата кафэ ды бараў, рэстаранаў. І толькі цэны ў іх аднолькава высокія: не менш, як 10 тысяч на чалавека за сціплы вечар. Можна адпачываць амаль што ад ранку да ранку.**

Дзеці з пачатковых класаў ведаюць "пажыўныя месцы" лепш за бацькоў. Бо ўсе святочныя мерапрыемствы ў адукацыйных установах адзначаць забараняецца. Але такое баўленне часу наўрад ці можна назваць адпачынкам. Там вельмі цёмна, гучыць незразумелая музыка.

На жаль, у горадзе няма ніводнага прытулку бацькам разам з дзецьмі. Здаецца, ёсць сэнс стварыць кафэ з прыемным афармленнем, музыкай і цэнамі для ўсёй сям'і. І не патрэбныя тут незвычайныя напоі ў бутэльках ці заморскія пачастункі. У Маладзечне дастаткова сваіх кандытарскіх, харчовых прадпрыемстваў, якія маглі б у поўнай меры скласці добры асартымент.

Бар "Рыф" практыкаваў дыскатэкі для дзяцей і бацькоў з 13-00 да 16-00 у выхадныя дні. Але зноў жа, на дзіцячы адпачынак ён мала чым падобны. Усё тая ж цемра і зусім не дзіцячая музыка. Ды яшчэ за немалыя грошы. Як вынік, дзеці атрымліваюць такія культурныя умовы, якія ствараюць ім дарослыя.

**Ірына РАБУШКА.**




## Чытаем «РГ»

Вы любіце сустракацца па пятніцах з нашай газетай? Зрабіце гэтыя сустрэчы рэгулярнымі – падпішыцеся на "Рэгіянальную" ў любым паштовым аддзяленні. Мы ж абяцаем вам і ўдалейшым заставацца вернымі праўдзе. Незалежны погляд на жыццё нашага краю, цікавыя публікацыі па гісторыі, эканоміцы, спорце, займальныя забаўкі і крыжаванкі, каляровая праграма тэлебачання – усё гэта вы знойдзеце, калі разгорнеце "Рэгіянальную газету".

Вас чакаюць знаёмыя і новыя рубрыкі і аўтары.

Да сустрэчы ў наступную пятніцу.

**Рэдакцыя «РГ».**

**Індывідуальная падпіска**
*індэкс 63212*
**1 мес.** – 662 руб.

**Ведамасная падпіска (з улікам ПДВ)**
*індэкс 63369*
**1 мес.** – 2380 руб.

■ ІЗНОЎ ПРА ШКЛАТАРУ

# Забірайце піўныя бутэлькі

**МАЛАДЗЕЧНА. Уладальнікі гандлёвых кіёскаў лічаць, што крайнімі ў "рэвалюцыйнай сітуацыі" з пустымі бутэлькамі іх зрабіла заканадаўчая і выканаўчая ўлады.**

Намеснік старшыні ГА "Маладзечанскі прадпрымальнік" **Кацярына Астапоўская:**

### Чаму паўсюдна гандлююць півам?

– Да ўвядзення адзінага падатку з прадпрымальнікаў дэкрэтам прэзідэнта, стаўка, калі гандлюеш цыгарэтамі была адна, калі півам – удвая большая. Таму да 1 ліпеня півам гандлявалі не больш за 5 прадпрымальнікаў. Калі ўвялі адзіны падатак, то самай высокай стаўкай стала на цыгарэты і піва – 120 еўра. І тыя, хто раней прадаваў цыгарэты, пачалі завозіць піва – трэба ж неяк адбіваць стаўку.

Прадпрымальнікі сабралі дэлегацыю і пайшлі да дэпутатаў аблсавета. Прасілі прагаласаваць за тое, каб раз'яднаць падатак на цыгарэты і піва. Не атрымалася. Упэўненая, што калі б падатак на цыгарэты быў хаця б 110 еўра, а на піва застаўся 120, большасць прадпрымальнікаў не завозіла б піва. Таму што не кожны хацеў бы плаціць лішніх 10 еўра.

А так мы маем у горадзе вялікую колькасць пустой тары пры слабай рабоце пунктаў прыёму.

### Як вырашаюць праблему?

Гарвыканкам выдаў распараджэнне ад 25 ліпеня №01-9/226р " Аб упарадкаванні прыёма шклатары ад насельніцтва". Але прадпрымальнікі сумняваюцца ў законнасці некаторых пунктаў.

Прыкладам, пункт 2: "Забараніць гандлёвым прадпрыемствам усіх формаў уласнасці..., якія размяшчаюцца на тэрыторыі горада, прыём і продаж алкагольных напояў, у тым ліку піва, БЕЗ АРГАНІЗАЦЫІ наступнага прыёму шклатары.

Прадпрымальнікі сказалі, што на прыём шклатары патрабуецца спецыяльны дазвол у ліцэнзіі, які трэба ўзгадніць з цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі. А выканком пазбавіць ліцэнзіі на гандаль толькі з-за таго, што прадпрымальнік не прымае бутэлькі не можа, бо не мае ніякіх законных падставаў. Між тым, пункт 3 гаворыць адваротнае: " Абавязаць прадпрыемствы гандлю, якія маюць ліцэнзіі на права рознічнага гандлю... півам, арганізаваць прыём ад насельніцтва пустых бутэлек. ... У выпадку адмовы прадпрыемства можа быць ПАЗБАЎЛЕНА ЛІЦЭНЗІІ на права рознічнага гандлю алкагольнымі вырабамі, у тым ліку і півам.

У чацвертым пункце прадпрымальнікі бачаць дыскрымінацыю тавару па месцы вытворчасці: "Забараніць рэалізацыю піва вытворчасці Расійскай Федэрацыі і Украіны ў шкляным посудзе ў выпадку неажыццяўлення прыёму шклопосуду.




Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Пустыя бутэлькі ў кіёсках няма дзе складзіраваць.**

### Што рабіць?

Уладальнікі кіёскаў раяць выканкому вырашаць праблему не шляхам забаронаў. Больш плённым было б дапамагчы правесці работу з маладзечанкім піўзаводам.

Прыкладам, "Аліварыя", калі прывозіць піва ў кіёск, не ўключае кошт бутэлек у дарожныя выдаткі. Прадпрымальнік заключае дагавор з заводам, у якім той абавязаны вярнуць усю тару, інакш чакае 300-працэнтны штраф.

Бутэлькі ад кока-колы прымаюць паўсюдна. Гэта вынік таго, што прадпрыемства належным чынам наладзіла прыём бутэлек.

Можна вырашыць пытанне і з "Балтыкай".

А наконт магчымасці прыёму шклатары ў кіёсках мы спыталіся ў галоўнага ўрача Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Міхаіла Грабоўскага**:

– У кіёсках мы забараняем прымаць тару, бо па санітарных нормах для гэтага павінны існаваць АСОБНАЕ ПАМЯШКАННЕ. Увогуле, у кіёсках мы дазволілі гандаль півам толькі пры ўмове, што яны НЕ БУДУЦЬ прымаць шклатару. Інакш там будзе не правярнуцца.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ЭКАНАМІЧНА-КРЫМІНАЛЬНЫ АГЛЯД

# Гарачае лета

Дырэктар аднаго з мінскіх прыватных прадпрыемстваў, не маючы ліцэнзіі на аказанне паслуг грамадзянам за замежную валюту, рэалізоўваў і выконваў установку металічных дзвярэй за наяўныя долары. Сума даходу – 3542 долары. Узбуджана крымінальная справа.

Начальнік эканамічнага аддзела аддзялення аднаго з банкаў на працягу некалькі год, злоўжываючы даверам грамадзян, завалодала шляхам падману каля 100 тысяч долараў ЗША. Яна пазычала буйныя сумы грошай у сваіх калег па рабоце, знаёмых, родзічаў і, зразумела, не вяртала. Узбуджана па кожным эпізодзе 14 крымінальных справаў. Магчыма яшчэ не ўсе факты ўстаноўленыя, таму што ў сеці банкіркі трапілі не толькі мінчане, але і жыхары Брэста і іншых гарадоў краіны.

За атрыманне хабару ўзбуджана крымінальная справа супраць 38-гадовай загадчыцы склада агароднінасховішча нарыхтоўча-вытворчага Заслаўскага райспажыўтаварыства. За незаконны водпуск 16 тон бульбы прадпрымальніку з Туапсе яна атрымала 50 долараў і збіралася атрымаць яшчэ 650.

Пастаянна расце колькасць крадзяжоў чорных і каляровых металаў. На тэрыторыі завода ЖБВ у Заслаўі затрыманая аўтамашына грамадзянаў Літвы з грузам каляровага металу ў 22 тоны без дакументаў, на Воранаўскай мытні таксама спынена спроба незаконнага вывазу ў Літву 28 тон лому каляровых металаў.

Пазбаўленне свабоды на тэрмін ад 2 да 5 год пагражае жыхару Глыбокага за незаконны занятак прадпрымальніцкай дзейнасцю – ён пазычаў грамадзянам грашовыя сродкі пад працэнты і атрымаў даход у суме 5,7 млн. рублёў.

Прадпрыемства "Завод будматэрыялаў АТ "Забудова" парушыла дысцыпліну цэнаў і несвоечасова апрыходавала наяўныя грошы, атрыманыя ў банку. Па выніках праверкі да прадпрыемства прыменены эканамічныя санкцыі ў суме 1,1 млн рублёў.

Устаноўленыя крадзяжы таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў у магазінах Вілейскага прадпрыемства "Садружнасць". 46-гадовая загадчыца секцыі канцтавараў і 35-гадовая прадаўшчыца шляхам растраты здзейснілі крадзяжы на суму 1,5 млн. рублёў. Яшчэ трое загадчыкаў магазінаў прысвоілі больш за 3 млн. рублёў. За растрату і прысваенне ўзбуджаныя крымінальныя справы.

Двое маладых мінчанаў з сакавіка па верасень мінулага года аказвалі грамадзянам Беларусі паслугі па афармленні дакументаў для эміграцыі ў Швецыю. Аднак грамадзянаў адтуль дэпартавалі. Даход склаў каля 10000 долараў. За занятак незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю ўзбуджаныя крымінальныя справы.

Загадчык склада рыбгаса "Красная зорька" у Мядзеле за крадзеж 1620 кг карпа і 1776 бляшанак рыбных кансерваў на суму 1873000 рублёў абвінавачваецца ў злоўжыванні службовым становішчам.

40-гадовы начальнік пажарнай аварыйна-выратавальнай часці Вілейкі, скарыстаўшы службовае становішча, патрабаваў у прыватных прадпрыемстваў сталярныя вырабы. Пагражаў прымяненнем санкцый па выяўленых парушэннях. Такім чынам ён атрымаў больш як 10 дзвярных блокаў. Вымагальнік арыштаваны, узбуджана крымінальная справа за вымагальніцтва і атрыманне хабару.

Парламентарыі заклікалі ўрад распрацаваць меры, якія стымулююць легалізацыю разлікаў па аплаце працы. Большая частка прыватных прадпрыемстваў асноўную частку заработнай платы выплачвае работнікам «у канвертах». Для параўнання, за мінулы год сярэдняя заработная плата на дзяржаўных прадпрыемствах склала 54400 руб., на прадпрыемствах з замежнымі інвестыцыямі — 51700 руб., на прыватных — 46000 руб., хаця вядома, што прадукцыйнасць працы на апошніх вышэйшая ў 1,5 разы.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 2 жніўня | 9 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 1419,00 руб. | 1432,00 руб. |
| Нямецкая марка | 638,79 руб. | 640,47 руб. |
| Літ | 354,71 руб. | 357,95 руб. |
| Расійскі рубель | 48,43 руб. | 48,85 руб. |
| Злоты | 332,70 руб. | 339,90 руб. |
| ЕЎРА | 1249,36 руб. | 1252,64 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1450 – 1470 руб. | 1450 – 1470 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 1.08 | 8.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2200 | 2200 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7160 | 8140 |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | 3100 |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 430 | 430 |
| Цукар, 1 кг | 765 | 646 |
| Алей, 1 л | 880 | 880 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 500 |
| Маянэз, 200 г | 280 | 270 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1600 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 500 | 500 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 400 | 400 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 500 | 550 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 300 |
| Агуркі, 1 кг | 500 | 500 |
| Памідоры, 1 кг | 850 | 900 |
| Лімоны, 1 кг | 1750 | 1700 |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | 1550 |
| Кавуны, 1 кг | 500 | 300 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 900 |
| Бульба маладая, 1 кг | 250 | 200 |
| Морква, 1 кг | 500 | 350 |
| Чарніцы, малое вядро | 2500 | 3000 |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 2500 | 3000 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 900 | 1000 |
| Маліны, малое вядро | 6000 | 6000 |
| Вішні, малое вядро | 2000 | 2500 |
| Брусніцы, малое вядро | | 4500 |
| Сліва, малое вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | 200 |

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

# Палова працаўладкаваная

**Дадзеныя па беспрацоўі за 7 месяцаў.**

| | Колькасць беспрацоўных на 1.01 | Колькасць беспрацоўных на 1.08 | Працаўладкаваліся за 7 месяцаў | Засталося беспрац. на 1.08 |
|---|---|---|---|---|
| Маладзечна | 1370 | 1783 | 1438 | 1379 |
| Маладзечанскі раён | 239 | 387 | 260 | 282 |
| Мядзельскі раён | 220 | 251 | 227 | 225 |
| Ашмянскі раён | 163 | 357 | 273 | 141 |
| Астравецкі раён | 316 | 387 | 242 | 358 |
| Вілейскі раён | 472 | 610 | 516 | 379 |
| Смаргонскі раён | 1100 | 1366 | 1010 | 1082 |

**Падрыхтаваў Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ЦЭНТР ГІГІЕНЫ І ЭПІДЭМІЯЛОГІІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# «Фаняць» толькі чарніцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Спецыялісты РЦГіЭ у ліпені даследавалі 115 проб харчовай прадукцыі (лясных ягад - 23, грыбоў - 3, малака - 6) з населеных пунктаў Хоўхлаўскага сельсавета.**

Дасведчаны фельчар-лабарант **Галіна Пятроўская** канстатуе, што ўся прадукцыя (за выключэннем адной пробы чарніц з в. Даманава) была "чыстая". Для правядзення радыехімічных даследаванняў раслінная і малочнай прадукцыі на ўтрыманне стронцыю-90 адабраныя пробы адпраўленыя ў абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

Гамма-фон, які вымяраўся штодня, быў у межах 8-18 мкр/ч.

**Віктар БЕЛІК, загадчык аддзела радыяцыйнай гігіены МРЦГіЭ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Маладзечна, калгасны рынак.**

**Выбары-2001**



Да выбараў прэзідэнта засталося 30 дзён

■ ГОЛАС НАРОДА ("ГАРАЧЫ" ТЭЛ. 69667):

**Лідзія Белехава, Маладзечна, сакратар-лабарант:**

*– Сярод кандыдатаў у прэзідэнты лічу самым дастойным і дэмакратычным Сямёна Домаша. Менавіта ён больш за іншых адпавядае інтарэсам Беларусі. Што да сучаснага прэзідэнта, то, мяркую, ён не мае маральнага права ўдзельнічаць у выбарах. Спадзяюся, што Домаш з Ганчарыкам вызначацца і адзіным будзе Сямён Домаш.*

## Назіранне за выбарамі

**Мінскую вобласць наведалі міжнародныя назіральнікі Асацыяцыі арганізатараў выбараў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (ААВЦУЕ).**

Асноўныя з мерапрыемстваў рэкамендацыйнага характара наступныя:

1. Максімальнай адкрытасць і галоснасць з удзелам усіх зацікаўленых асоб і прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.
2. Раўнапраўнае прадстаўніцтва ад палітычных партый і грамадскіх арганізацый.
3. Садзейнічанне органаў выканаўчай улады выбарчым камісіям і іншым удзельнікам выбарчага працэсу. Неўмяшанне ў іхнюю кампетэнцыю, неперавышэнне паўнамоцтваў.
4. Адкрытае і галоснае правядзенне праверкі дакладнасці подпісаў выбаршчыкаў у подпісных аркушах.
5. Неаказанне ўціску на выбаршчыкаў.
6. Забеспячэнне права апеляваць у незалежную, непрадузятую судовую інстанцыю.
7. Доступ выбаршчыкаў, іншых удзельнікаў выбараў са сваімі зваротамі ў кампетэнтныя праваахоўчыя і прапарымяняльныя органы.

З прыведзеных 7 мерапрыемстваў рэкамендацыйнага характара першыя 3 ужо не выконваюцца. Так, па ўсёй краіне ў тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі ўключаны толькі залежныя і лаяльныя да ўладаў асобы. Няма забеспячэння раўнапраўнага прадстаўніцтва ад палітычных партый і грамадскіх арганізацый. У спісах тэрытарыяльных выбарчых камісій апублікаваныя толькі прозвішчы іх членаў і наогул не пазначаныя месца работы і парадак вылучэння.

**Аляксей ХВОСЦІК.**

■ ВЫБАРЫ «РГ»

## «Сухая» перамога Ганчарыка

У другім туры нашых выбараў спаборнічалі Сямён Домаш – Аляксандр Лукашэнка і Сяргей Гайдукевіч – Уладзімір Ганчарык. У рэдакцыю патэлефанавала 19 чалавек. Лік у першай пары 17:2 на карысць Домаша, у другой 14:0 на карысць Ганчарыка пры пяці галасоў супраць усіх.

Пасля двух тураў у Домаша – дзве перамогі. Гайдукевіч і Ганчарык перамаглі аднойчы, Лукашэнка перамог не мае.



Сяргей Гайдукевіч, 1954.



Сямён Домаш, 1950.



Уладзімір Ганчарык, 1940.



Аляксандр Лукашэнка, 1954.

### 3 тур

У заключным туры спаборнічаюць Сяргей Гайдукевіч – Сямён Домаш і Уладзімір Ганчарык – Аляксандр Лукашэнка.

Тэлефануйце 69667 і аддайце свой голас за таго ці іншага кандыдата з кожнай пары.

**Падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

# Заява

## прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ганчарыка і Сямёна Домаша

Мы, удзельнікі "пяцёркі" прэтэндэнтаў на пост Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія пераадолелі статысячны бар'ер збору подпісаў, – Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш, дзякуем усім грамадзянам Беларусі, хто не пашкадаваў сваіх сіл, каб шырокая грамадзянская кааліцыя дабілася поспеху на першым этапе выбарчай кампаніі. Мы дзякуем нашым саратнікам па "пяцёрцы", членаў іх ініцыятыўных груп за уклад у агульную справу. Мы дзякуем усім, хто сказаў "да" дэмакратычным выбарам і пераменам.

У апошні час беларускімі дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі распаўсюджваюцца чуткі аб супярэчнасцях паміж намі. Мы з поўнай адказнасцю запэўніваем грамадзян Беларусі, нашых прыхільнікаў, што застанемся вернымі прынятым на сябе абавязацельствам – ісці разам да нашай агульнай перамогі.

Мы заяўляем, што наша дамоўленасць аб вылучэнні адзінага кандыдата на будучых прэзідэнцкіх выбарах застаецца ў сіле. У радах нашых саратнікаў па барацьбе няма рознагалосся і ваганняў. Колькасць нашых староннікаў расце з кожным днём.

Мы разумеем, што на нас глядзіць краіна. Яна чакае нашых дзеянняў, каб уздыхнуць шырока і свабодна, каб назаўсёды пазбавіцца ад страху, варожасці і падману.

Мы заклікаем нашых староннікаў, усіх, хто называе сябе Грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, аб'яднацца дзеля дасягнення нашай агульнай мэты, дзеля будучага нашай Беларусі.

Пройдзем гэту дарогу разам і даб'ёмся перамогі!

У Адзінасці – наша сіла!

**Уладзімір ГАНЧАРЫК, Сямён ДОМАШ.**

■ СУДЫ

## «Зубр» з паштовых скрыняў

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні ў горадзе прайшлі два судовыя паседжанні, на якіх адменены рашэнні адміністрацыйнай камісіі гарвыканкома.**

Двух падлеткаў затрымалі міліцыянеры: хлопцы раскідвалі па паштовых скрынях выданне пад назвай «Зубр». "Абвінавачанне" было стандартызаванае: распаўсюджванне друкаваных выданняў, што ўтрымліваюць звесткі, скіраваныя на нанясенне ўрону дзяржаве (згодна з пратаколам затрымання, бо адміністрацыйная камісія ў віну ставіла ўжо распаўсюджванне друкаваных выданняў без выходных дадзеных). Моладзь не згадзілася з прыцягненнем іх да адказнасці: з дапамогай мясцовага аддзялення Беларускага Хельсінкскага Камітэта падалі скаргі ў суд.

Да гонару маладзечанскіх суддзяў, судовыя паседжанні не сталіся фармальнасцю. Выявіўся цэлы букет парушэнняў і недакладнасцей у рабоце адміністрацыйнай камісіі. У прыватнасці, на яе паседжанні нават не высвятлялася, што за выданні гэта – «Зубр», які існуе парадак іх вырабу, ці патрэбныя выходныя дадзеныя ўвогуле. Нарэшце, прадметам разгляду ў судзе стала і тое, чым на самой справе з'яўляюцца тыя самыя друкаваныя выданні з назвай «Зубр» – лістоўкамі, газетамі ці яшчэ чым?

**Адказчык (гарвыканком) у судзе не змог патлумачыць, які канкрэтна ўрон і каму нанесены праз паштовыя скрынкі. Не прагучала спасылак на канкрэтныя заканадаўчыя акты.**

Такім чынам, суд першай інстанцыі (бакі могуць абскардзіць рашэнне ў абласны суд) адмяніў рашэнне адміністрацыйнай камісіі гарвыканкома і накіраваў ёй справу на новы разгляд. Цяпер, калі камісія прыйдзе да высновы, што змест тых «лістовак» (вытрымкі з зарэгістраваных у Дзяржкамдруку газет) накіраваны на нанясенне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзянаў, то сваю выснову яна павінная будзе абгрунтаваць.

Як трапна заўважыў адзін з суддзяў, у Мінску часцяком прапануюць рэкламныя ўлёткі якога-небудзь «Marlboro»; і невядома яшчэ ад якой агітацыі больш шкоды дзяржаве.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ РАЗБОРКІ

## БХК скардзіцца, а яго тармозяць

**МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовае аддзяленне БХК пасля адмовы ўключыць іхніх прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій падало скаргі ў Цэнтрвыбаркам, абласную пракуратуру, аблвыканком.**

Адказы пачалі прыходзіць на любыя адрасы, акрамя правільнага (вул. Крынічная, 17-15). Адзін прыйшоў у суседні, пятнаццаты, дом. Другі наогул у кватэру №74 дома №12 (цотных дамоў па Крынічнай наогул няма і ніколі не было).

Нарэшце, нехта правільна напісаў адрас. Вось толькі адправілі адказ з Мінска 27 ліпеня (паштовы штэмпель), прыйшоў ён у Маладзечна 28 ліпеня (паштовы штэмпель), а атрымалі яго ў БХК толькі 3 жніўня.

Дзе тая вуліца, дзе гэты дом? А час да выбараў скарачаецца.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

## Футбольны турнір «Выбірай»

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду і чацвер у гарпарку прайшоў турнір у рамках кампаніі "Выбірай". Удзельнічала 8 дваровых каманд (узрост футбалістаў 14-25 год). Фінальныя гульні прайшлі ўчора ўвечары.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ЛЕТА

## На адпачынак па веды

**Як весела і змястоўна правесці выхадныя дні, як мага больш пабачыць, давсдацца шмат карыснага, ды яшчэ і добра адпачнуць? Такое месца ёсць не толькі на Кіпры ці Багамах, але пад Мінскам на вадасховішчы "Пціч".**

Мабыць, усе чулі пра расійскія "Кіжы". Нічым ні горшы музей народнага дойлідства, што ля вёскі Строчыца на Пцічы. Сюды звезеныя падвор'і з усіх куткоў Беларусі. Дзе яшчэ можна пабачыць "жывы" вятрак, драўляную царкву цікавай архітэктуры?

За невялікія грошы тут можна скарыстацца паслугі гіда. Калі пашанцуе, то і пабачыць здымкі фільма або кліпа пра жыццё беларускай вёскі з пазамінулым стагоддзі.

Месца для музея абранае невыпадкова. Менавіта тут, па меркаванні некаторых навукоўцаў, знаходзіўся летапісны старажытны Менск, які "пераехаў" на сучаснае месца пасля знакамітай бітвы на бітвы на Нямізе.

Пціч – адно з вадасховішчаў, якія ствараліся вакол нашай сталіцы менавіта для адпачынку. Яно знаходзіцца ў маляўнічым, з узгоркамі і лясными масівамі, ландшафце. На паўднёвым беразе вадаёма ёсць пляж і база трэніроўкі водных лыжнікаў. У выхадныя дні амаль заўсёды тут можна пабачыць "водны балет" або скокі з воднага трампліну.

Дабрацца да "Пцічы" не вельмі складана. Электрычкай трэба даехаць да Мінска, а далей з Цэнтральнага вакзала або з "Інстытута культуры" праехаць 5 прыпынкаў у Берасцейскім накірунку. Прыпынак так і называецца "Пціч". Ад прыпынку трэба прайсці хвілін 20 да шашы і дамбы плаціны. Далей, калі вас цікавіць музей, – па сцяжынцы ўздоўж паўночнага берага вадасховішча, прыкладна 1,5 гадзіны. Калі цікавіць пляж – на паўднёвы бераг.

Можна абысці ўвесь вадаём, і пры гэтым пабываць усюды. Палаткі варта ставіць у лясных масівах ля берага, але паўночны бераг – абрывісты.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Рэчка Цвецень можа зацвісці?

**МАЛАДЗЕЧНА. Чальцы грамадскага аб'яднання "Крыніца" правялі даследаванне экалагічнага стану рэчкі Цвецень, паблізу ад вёсак Капачы, Хажова, Кулёўшчына.**

Рэчышча Цвецені на ўсім працягу каналізаванае, штучнае. Таму было цікава, як настолькі радыкальнае ўмяшанне чалавека паўплывала на стан рэчкі і наваколля.

Ад вытоку да вусця – а Цвецень упадае ў Бярэзіну – не было заўважана такіх індыкатараў чыстай вады, як двухстворкавыя малюскі, ручайнікі і інш. Абапал ракі знаходзіцца дзесятак жывёлагадоўчых фермаў. Акрамя таго, у яе з палёў скідваюць ваду шматлікія каналы, з якімі трапляць як гной з фермаў, так і ўгнаенне з палёў. Сама вада – мутная, непразрыстая, хаця і без паху і рознага кшталту плеваk.

Рачная вада ачышчаецца, увесь час мяняючыся. Але водаабмену ў Цвецені перашкаджаюць 4 меліярацыйныя шлюзы. Яны дзеляць раку на шэраг адрэзкаў са стаячай вадой. У межах такіх адрэзкаў рачныя ??? ператвараюцца ў азёрныя з кубышкамі і белакрыльнікам балотным. Абапал гэтых азёрных участкаў навакольныя тэрыторыі падтапляюцца, на іх адбываецца другаснае забалочванне. Асабліва моцна гэты працэс выяўляецца паміж Хажоўскім кар'ерам і вёскай Кулеўшчына.

З іншага боку, недаступныя для чалавека забалочаныя хмызнякі прываблівають розных жывёл. Для іх гэта астраўкі паратунку ў наваколльным антрапагенным ландшафце. Там водзяцца вужы, была заўважаная "чырванаканіжная" чапля! Другога "чырванакніжніка" – арлана-белахвоста – давялося пабачыць каля вёскі Брохаўшчына. Ён нес у кіпцюрах забітую птушку, а ўслед з крыкам ляцелі дзве вароны-нахабніцы.

Марэнныя і водна-ледніковыя адклады пакінулі ў даліне ракі Цвецень шмат крэменю – прыроднага абяс шкоджвальнага мінералу. Навукоўцы навет раяць кідаць крэмень у пітную ваду. Магчыма, наяўнасць гэтага мінералу і не дае рацэ "цвісці", нягледзячы на спякотнае надвор'е і наяўнасць у вадзе вялікай колькасці арганічных злучэнняў.

Выток Цвецені знаходзіцца каля вёскі Малыя Камэўнікі. Водападзел у рэльефе вызначаецца седлавіннай формай. Праз некалькі соцень метраў на супрацьлеглым схіле пачынаецца іншы вадаток – прыток Ушы.

Сам маршрут экспедыцыі прайшоў ад станцыі Палачаны да станцыі Мясата. Варта адзначыць, што ён не турыстычны. У антрапагенным ландшафце (канавы, фермы) эстэтыкі вельмі мала.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Сапернік зноў аказаўся моцным

**04.08 Шахцёр (Салігорск) – Маладзечна-2000 4:1 (1:1)**

**Арбітр** – Мяцельскі (Мінск), 3100 гледачоў

**Галы**: Безбародаў (7), Доўнар (47), Ціханчык (72), Лявончык (78); Турчыновіч (16).




Гаспадары не рэалізавалі пенальці на 38 і 62 хвілінах (абодва разы Сцепановіч парыраваў).

**Папярэджанні** – Ваўчок, Турчыновіч.

**Лепшы** – Сцепановіч (трэці раз у сезоне).

"Шахцёр" рыхтуецца да матчаў Кубка УЕФА. Мяркуючы па справаздачнай гульні, хлопчыкамі для біцця ў Еўропе салігорцы не будуць, бо з лёгкасцю паставілі ў падобнае становішча на ўнутраным фронце маладзечанскую каманду.

Іх атакі следавалі адна за адною, найбольш небяспечнымі былі флангавыя прастрэлы і ўдары здалёку. На першы гол маладзечанцы здолелі адказаць добрай камбінацыяй у выкананні **Міхалёва і Сідарэнкі**, якую трапным ударам злёту завяршыў **Турчыновіч**. Другое ўзяцце нашых варот адразу пасля перапынку стала пераломным у сустрэчы. За роўным па ліку першым таймам паследаваў другі, у якім праявілася істотная перавага гаспадароў у фізічнай падрыхтоўцы.

**Сцепановіч** названы лепшым футбалістам у складзе ФК "Маладзечна-2000" не толькі таму, што праявіў адмысловую рэакцыю, калі парыраваў за матч два 11-метровыя ўдары. Ён выратаваў і яшчэ ў некалькіх сітуацыях.

Лакаматыў-96 – Славія 0:4, Ведрыч-97 – Тарпеда-МАЗ 1:2, Нафтан-Дэвон – Белшына 1:3, Дынама (Б) – БАТЭ 1:0, Гомель – Нёман-Белкард 2:1, Дынама (М) – Днепр-Трансмаш 0:1.

| | |
|---|---|
| 1. Белшына | 35 |
| 2. БАТЭ | 32 |
| 3. Славія (-1) | 26 |
| 4. Нёман-Белкард | 26 |
| 5. Шахцёр | 26 |
| 6. Тарпеда-МАЗ (-1) | 24 |
| 7. Дынама (М) (-1) | 23 |
| 8. Гомель | 23 |
| 9. Днепр-Трансмаш | 23 |
| 10. Дынама (Б) | 19 |
| 11. Лакаматыў-96 | 13 |
| **12. Маладзечна** | **12** |
| 13. Ведрыч-97 (-1) | 7 |
| 14. Нафтан-Дэвон | 4 |

**Бамбардзіры:** Кутузаў (БАТЭ) – 12; Давыдаў (Нёман-Белкард) – 11.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДУБЛЬ

**03.08. Шахцёр – Маладзечна–2000 1:2**

**Галы:** (81); Карпіленка (5), Дараховіч (9).

**Склад:** Рубацкі, Дрозд, Відрук (кап.), Альховік, Лявончык, Вільтоўскі (Матусевіч,46), Антановіч, Карпіленка (Пятроўскі, 46), Дараховіч, Млечка, Харэцкі.

**Выдаленні:** Мікула (89); Дараховіч (71).

Яшчэ ў дамашнім матчы першага круга маладзечанцы выглядалі мацнейшымі. Тады не пашанцавала, а цяпер лік па гульні.

Спачатку пасля падачы вуглавога абаронцы салігорцаў забілі сабе самі (вуглавы падаваў Карпіленка), а потым Дараховіч моцным ударам падвоіў лік. У другім тайме Сяргея выдалілі з поля, але пераможны лік удалося захаваць.

У турнірнай табліцы "Маладзечна–2000" падняўся на адзін радок вышэй – цяпер дзесятыя.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# Смаргонцам дапамаглі «стандарты»

**04.08 Смаргонь – Забудова 2:1 (0:0)**

**Суддзя** – Місючэнка (Мінск).

**Галы:** Дзігілевіч (57), Пагоцкі (68-пен); Саковіч (79).




Тое, што гаспадары возьмуць чарговыя тры ачкі, было відавочна яшчэ да пачатку матча. Па-першае, чатыры апошнія матчы яны выйгравалі. Па-другое, сустрэчы з землякамі для смаргонцаў у апошнія гады былі прыемнымі – у сямі апошніх матчах 5 перамог і 2 нічыі. Па-трэцяе, амаль палова гульцоў асноўнага складу "Забудовы" прапускала матч з-за перабору картак і на гульню прыехала 13 чалавек. Параўнайце з намерам гаспадароў мецьдва раўназначныя склады.

Адразу са стартавым свістком гаспадары населі на вароты "Забудовы". Але час ішоў, гаспадары ўпэўнена даходзілі да штрафной і чамусьці спыняліся. Не хапала апошняга паса. Адзіны стопрацэнтны момант узнік у канцы тайма, калі нехта з гаспадароў ва ўпор растрэльваў **Андрэя Канапельку** – варатар выратаваў.

У перапынку трэнер "Смаргоні" **Андрэй Майсейчанка** замяніў аднаго з нападаючых і правага паўабаронцу. Гаспадары адразу палезлі забіваць. Але першыя дзесяць хвілін да небяспечных момантаў справа не даходзіла.

Лепшым у гаспадароў у другім тайме быў **Дукса**, які ўчыстую ў другім тайме перайграў на сваім фланзе **Вячаслава Ваўчка**. Першы гол узнік пасля прарыва Уладзіслава па фланзе, які з парушэннем правілаў перарваў яго апанент. Дукса навесіў у штрафную і **Дзігілевіч** ударам галавой адкрыў лік.

Праз дзесятак хвілін Дукса прадольным пасам вывеў у штрафную **Шаблінскага**, які зарабіў пенальці. Гэта **Мікалай Мятліцкі** падсек нападаючага. З "кропкі" вызначыўся дэбютант Пагоцкі.

Потым пайшоў адкрыты футбол. Чысцінцы здолелі скараціць разрыў у ліку – удар–прастрэл **Алега Канапелькі** пераправіў у "дзевятку" **Міхаіл Саковіч**.

У канцы матча Дукса меў рэальны момант змяніць лік, але Андрэй Канапелька перавёў мяч на вуглавы.

Калі чысцінцы змагаліся з усіх сіл, то смаргонцы не ўразілі і гэтым. У гульні іх выручылі стандартныя становішчы. Але пераможны лік – гэта цяпер галоўнае.

Тым часам, лідэры «Лакаматыў» і "Вертыкаль" паміж сабой згулялі ўнічыю, што дазволіла смаргонцам узняцца на другі радок.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**«Смаргонь» - «Забудова». Адзінаборства Дзмітрыя Дзігілевіча (№9) і Мікалая Татуна.**

■ ГАРАДКІ

# У прызёры не прабіліся

На чэмпіянат свету так і не прыехалі малдаване, шведы, немцы і індусы.

Асабісты залік. 1. Аляксандр Бабіч (Ялта, Украіна) – 114 біт. 2. Уладзімір Палякоў (Верхняя Пышма, Свярдлоўская вобласць, Расія) – 115. 3. Васіль Духанін (станіца Ленінградская, Краснадарскі край, Расія) – 116.

Аляксандр Філістовіч заняў 13 месца (120). Лепшы з "неславянаў" кіргіз Куват Атыканаў на 27 пазіцыі.

Пасля першага дня лідзіраваў Палякоў – 35 біт. На наступны дзень Бабіч яго дагнаў (у абодвух стала па 75). Увогуле, чэмпіён паказаў зайздросную стабільнасць. Меў па партыях паказчыкі 17, 20, 18, 20, 19, 20 (гэта значыць, па днях 37, 38, 39). Такога не скажаш пра нашага Генадзя Сушко, які ў першай партыі скарыстаў ажно 24 біты. Потым выправіўся, і са 122 заняў 17 месца.

Далей з беларусаў Дзмітрый Шэйко (прадстаўнік Магілёва) – 128 (36 месца) і Аляксандр Гарошка – 130 (42).

Беларусы значна дадалі ў выніках у параўнанні з чэмпіянатам рэспублікі, але не здолелі на роўных супрацьстаяць прызнаным аўтарытэтам. Магчыма, нашым хлопцам пакуль перашкаджае малады ўзрост, які правакуе нестабільнасць у выніках.

У заліку ЧМ сярод моладзі (да 25 гадоў) Сушко стаў 4, Шэйко – 8, Гарошка – 10.

У камандных спаборніцтвах гулялі з квадратнымі (у сячэнні) гарадкамі. Навінка сталася для некаторых удзельнікаў нечаканай і выклікала нямала спрэчак. Яна дае магчымасць выключыць выпадковасць у гульні, але змяншае відовішчнасць. Вырашана, што ў далейшым круглыя і квадратныя гадакі будуць існаваць паралельна.

Заявіліся на ўдзел дзесяць каманд. З дзвюх груп па пяць удзельнікаў у плэй-оф павінны былі выйсці па дзве каманды. У табліцах указаныя вынікі сустрэч беларускіх калектываў са сваімі сапернікамі і колькасць набраных ачкоў (2 – за перамогу і 1 – за нічыю).

**Група «А»**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Расія-1 | 0:3 | 8 |
| 2. Беларусь-1 | ## | 4 |
| 3. Украіна-2 | 3:1 | 4 |
| 4. Расія-3 | 2:3 | 4 |
| 5. Эстонія | 3:1 | 0 |

**Группа «Б»**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Расія-2 | 0:3 | 8 |
| 2. Украіна-1 | 0:3 | 6 |
| 3. Расія (мал.) | 2:3 | 4 |
| 4. Беларусь-2 | ## | 2 |
| 5. Казахстан | 3:0 | 0 |

Стыкавыя матчы. За 9 месца: Эстонія – Казахстан 3:2. За 7 месца: Расія-3 – Беларусь-2 3,5:1,5. За 5 месца: Украіна-2 – Расія (мал.) 3:1.

Паўфіналы прынеслі аднолькавыя вынікі 3:0, з якімі Расія-1 перамагла Украіну-1, а Расія-2 – нашу каманду. У першай партыі беларусы гулялі на роўных, але памылка ў яе канцоўцы перадвызначыла далейшы няўдалы ход матча. У гульні за 3 месца з украінцамі лік 0,5:3,5 (нічыя ў трэцяй партыі). У фінале лепшыя з расіянаў (Палякоў, Духанін, Песцераў, Аляксандр Мярзянаў, Дзмітрый Кіяеў, Мікалай Нікіцін) перамаглі суайчыннікаў лёгка 3:0.

Трэнер беларускай зборнай Аляксандр Кулак лічыць, што яго падапечныя пакуль саступаюць асноўным канкурэнтам у асабістым майстэрстве. Затое згулянасць, дысцыпліна, камандны дух у нашым калектыве знаходзяцца на належным узроўні. Сам ён практычна не гуляў, надзяляў сваю ўвагу псіхалагічнай падтрымцы вучняў, імкнуўся тактычна граматна размеркаваць сілы каманды.

Цяпер чэмпіянаты свету будуць праводзіцца раз у два гады, па чарзе з Кубкам свету. У наступным годзе КМ прыме Санкт-Пецярбург, а месца правядзення ЧМ-2003 яшчэ не вызначанае. Як і раней, штогод арганізуюцца чэмпіянаты Еўропы ў закрытых памяшканнях.

Сёлета ў Еўпаторыі пройдзе Кубак Европы і паралельна з ім першынства сярод юнакоў. На гэтыя старты напрыканцы жніўня з Беларусі паедуць 6 дарослых спартсменаў, па 6 старэйшых (1983-86 года нараджэння) і малодшых (1987 г. н. і маладзей) юнакоў. Цалкам гэтая паездка пакуль не прафінансаваная, таму члены зборнай у Санкт-Пецярбурзе прынялі рашэнне адмовіцца ад паловы грошай, атрыманых у Міністэрстве спорту і турызму на харчаванне, каб дапамагчы дзецям з'ездзіць на важныя старты (ды і проста пабываць улетку на Чорным моры).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ КОННЫ СПОРТ – КАНКУР

Удала выступаюць на міжнародных стартах прадстаўнікі сям'і Пятровых з Палачанаў.

**Вольга Пятрова** на расійскіх спаборніцтвах "Кубак Завідава" пры вышыні перашкод у 120 сантыметраў стала пятай на лошадзі па мянушцы Сіндзі.

У беларускай Ратамцы ж праходзіў этап Кубка свету з удзелам гаспадароў, расіян і латышоў. **Сяргей Пятроў** заняў другія месца ў скарастным маршруце (130 см) і ў маршруце па выбары (140), выступаючы на Боварыі. У яго трэція месцы ў класічным канкуры (140) на Вікторыі і ў тым жа маршруце па выбары (140) на Віднай.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**МЯДЗЕЛ. У мінулую суботу ў восьмы раз тут адбыўся рэспубліканскі лёгкаатлетычны прабег «Нарачанскае кальцо». 60 чалавек стартавалі на дыстанцыі 30 км, а 16 пераадолелі 61 км вакол азёраў Нарач і Мястра.**

З вынікам 3 гадзіны 57 хвілін на звышмарафонскай дыстанцыі перамог **Валерый Канарскі**, які нашмат апярэдзіў сваіх канкурэнтаў. Для яго гэта быў падрыхтоўчы этап перад чемпіянатам Еўропы па бегу на 100 км у Галандыі.

Галоўны суддзя прабегу **Аляксандр Кізіл** і сам паўдзельнічаў у спаборніцтвах на «трыццатцы». На дыстанцыі паспеў і ў Нарачы пакупацца.

– Сярод аматараў бегу лічыцца гонарам паўдзельнічаць у «Нарачанскім кальцы», – расказвае ён. – І наша мара сабраць тут тысячы людзей. Хто не можа бегчы вялікую дыстанцыю, прабяжыць маленькую. Сёння некаторыя балельшчыкі прайшлі 15 кіламетраў.

Хтосьці са спартсменаў выглядаў на фінішы стомленым, нехта не надта.

75-гадовы **Эдуард Макарэвіч** з Мінска фінішаваў з заклікам «Няхай жыве бег!» Ён лічыць, што лепей бегаць, дыхаць свежым паветрам, чым сядзець ля тэлевізара з цыгарэтай і піць лекі. На здароўе не скардзіцца, вось і «трыццатку» пераадолеў паспяхова.

**Георгію Сіткіну** ўжо споўнілася 77 год, з іх 40 ён займаецца бегам. Цяпер рыхтуецца да маскоўскага марафона.

У прабегу на дыстанцыі 61 км удзельнічаў і мядзельчанін **Аляксандр Быкаў**. Ён стаў чацвертым у сваёй узроставай групе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**12.08 17-00 Забудова – Гомель-2**

У першым крузе 1:0 (Казлоўскі) на выездзе

**15.08, розыгрыш Кубка Беларусі па футболу, першы раунд**

**18-00 Забудова – Граніт (Мікашэвічы, Д2)**

**17-30 Смаргонь – Керамік (Бяроза, Д2)**

